# Філармонія з Мінска ў дзіцячым садку

**МАЛАДЗЕЧНА. 19 сакавіка ў дзіцячым садку №6 прайшоў канцэрт салістаў Беларускай дзяржаўнай філармоніі для дзяцей і юнацтва. Яны прапанавалі адзін з цыклаў музычнай забаўляльна-адукацыйнай праграмы "Загадкі і тайны музыкі".**

Расказвае вядучы канцэрта і музыказнаўца **Анатоль Парэцкі**:

– Праграма, якую мы прапануем, існуе ўжо 20 год. Яна дапамагае дзецям далучыцца да свету музыкі. Паступова знаёміць з трыма сябрамі: Песняй, Маршам і Танцам. Потым – з музычнымі інструментамі, вядомымі кампазітарамі. Дзеці не павінны сядзець, як мышаняты, перад прыгажосцю. Яны гуляюць разам з намі, нехта спявае пад класічныя мелодыі Моцарта, Чайкоўскага і Баха. Калі дзіцячы садок зацікавіцца гэтым, мы будзем прапаноўваць поўны цыкл.



Фота Вольгі ПІЛІПЕНКІ.

**Музыказнаўца Анатоль Парэцкі вучыць юных Мальвін – Віку Гарбунову, Аліну Мацкевіч, Сашу Козыраву, Маргарыту Адамовіч, Карыну Захарчук – іграць на музычных інструментах.**

Падчас канцэрта Анатоль Парэцкі разыграў з маленькімі казку "Бураціна", але ў музычным жанры. Так стварыўся міні-аркестр, у якім 5 хлопцаў і дзяўчат упершыню ігралі на трохвугольніках, трашчотках і бубнах.

Мінчане плануюць вандраваць па Маладзечне да мая. Іх наступны прыпынак – політэхнічны тэхнікум, дзе навучэнцы пазнаёмяцца з "Пушкіным і музыкай".

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**

# Наперадзе новая прэм'ера?

**МАЛАДЗЕЧНА. 16 сакавіка ў Мінскі абласны драматычны тэатр завітаў дырэктар Тэатра юнага гледача, драматург Юрый Вута.**

Гэта ўжо не першая сустрэча калектыву тэатра з мінскім рэжысёрам, аўтарам. У лютым гэтага года адбылася прэм'ера спектакля "Хочаш – вер, хочаш – не вер..." па аднайменнай п'есе Ю. Вуты. Цяпер аўтар прапануе маладзечанскім акцёрам сваю новую работу "На другі дзень пасля Сёмухі" па матывах п'есы "Прымакі" Янкі Купалы, якая была напісаная 13 ліпеня 1913 года.

У сцэнічным варыянце купалаўскага жарту 2002 года цікавая задума. Каларытная мова беларускага класіка і сюжэт "Прымакоў" не змяняюцца, у сённяшнім варыянце п'есы з'явіцца новая дзеючая асоба – Суфлёр, ён жаУраднік. Цікавая задума ў рэжысёра па выкарыстанні маладзечанскай сцэны. Абяцае быць арыгінальнай і музычная частка. Плануецца спалучыць народныя мелодыі і кампазіцыі групы "Палац".

Ідэя новай пастаноўкі зацікавіла маладзечанскую трупу.

**Валянціна ШЫКАВЕЦ.**

■ ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ МАЛАДЗЕЧАНЦАЎ

# Ваш любімы акцёр?



**Таццяна Чаеўская, актрыса тэатра "Батлейка":**

— З "нашых" акцёраў я вылучыла б Алега Меньшыкава і Алену Якаўлеву, з замежных – П'ера Рышара. Кінастужка "Жорсткі раманс" – самая любімая. Я лічу, што яна, наогул, па-за канкурэнцыяй у кіно.



**Андрэй Данілевіч, беспрацоўны:**

— Ален Дэлон і яго сын. Прыгожыя, добра іграюць у любоўных сцэнах.



**Алена Юрэвіч, хатняя гаспадыня:**

— Міхаіл Баярскі. Ён цікавы і прыгожы мужчына. Яго ігру ў фільме "Сабака на сене" не параўнаць ні з чым, нават з "Трыма мушкецёрамі".



**Марына Чаеўская, выхавальніца:**

— Траволта. Шмат пра яго чытала, ён добры сем'янін. З рускіх акцёраў падабаецца Яўген Мацвееў, асабліва яго ігра ў фільме "Любить по-русски".



**Віталь Макрыцкі, нападаючы ФК "Маладзечна-2000":**

— Падабаецца ігра Алега Меньшыкава. Асабліва ў фільме "Усход-Захад".



**Таццяна Паўлючук, актрыса тэатра лялек:**

— Мне падабаецца Яўген Лявонаў. Асабліва люблю Жэрара Дзепардзье. Лепшы фільм, на мой погляд, "Істрыдскія ведзьмы", у якім таленавіта сыграў сваю ролю Джэк Нікалсан.



**Лявонцій Войтка, вартаўнік:**

— Не ведаю. Я гляджу замежныя фільмы. У асноўным, жыццёвыя серыялы. Такія, як "Зямля кахання".



**Ніна Цеплякова, касір:**

— Івар Калныньш. Падабаюцца яго ролі, таму што яны станоўчыя.

**Апытанне падрыхтавала Вольга ПІЛІПЕНКА, Ірына РАБУШКА і Юрый КАРПІЦКІ.**

# Свята музыкі

**МАЛАДЗЕЧНА. 19 сакавіка ў музычнай школе прайшоў канцэрт маладых выканаўцаў, лаўрэатаў рэспубліканскіх і міжнародных конкурсаў баяністаў-акардэаністаў, навучэнцаў рэспубліканскага вучэбнага комплексу гімназіі-каледжа пры Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі (БДАМ), а таксама студэнты І і ІІ курсаў БДАМ.**

У канцэрце ўдзельнічалі **Святлана Барэйка, Вольга Іванюк, Ягор Забелаў, Анастасія Шкіндзерава, Андрэй Шостак, Дзяніс Чорны, Яраслаў Гардзіенка.** Дарэчы, тры апошнія склалі трыо. Музыканты выконвалі творы на любы густ. Канцэрт працягваўся паўтары гадзіны. Святам музыкі кіраваў дацэнт БДАМ, дэкан факультэта павышэння кваліфікацыі **Мірон Була**.

Сярод слухачоў былі вучні Маладзечанскай музычнай школы, яе выкладчыкі і кіраўнікі, госці з Краснага, сярэдняй агульнаадукацыйнай школы мастацтваў, а таксама загадчык гарадскога аддзела культуры **Надзея Сідарэнка**.

Таленавітую моладзь Мірон Була сабраў з многіх куткоў Беларусі. Яго вучні прадстаўляюць Беларусь на конкурсах, якія праходзяць і ў далёкім замежжы.

**Ірына РАБУШКА.**



Фота Ірыны РАБУШКІ

**Выступае студэнтка Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі Вольга Іванюк.**

## 50 год тэатру

**ВАЛОЖЫН. 20 сакавіка Пяршайскаму народнаму тэатру споўнілася 50 год. З нагоды гэтага ў Пяршайскім Доме культуры акцёры паказалі п'есу "Перш і Ая", аўтар і рэжысёр якой – Мікалай Ганчарык.**

У аснове п'есы – легенда пра назву вёскі Пяршаі. На свята былі запрошаныя не толькі вяскоўцы, але і госці з абласных і раённых аддзелаў культуры.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**

## Выстаўка твораў Міколы Аўчыннікава

**МІНСК. Учора а 17-й гадзіне ў Нацыянальнай мастацкай галерэі "Палац мастацтваў" адкрылася выстаўка твораў маладзечанца Міколы Аўчыннікава, якая прымеркаваная да 50-годдзя мастака.**

На выстаўцы прадстаўлена каля дзвюх соцень работ М. Аўчыннікава. Паглядзець на іх можна да 31 сакавіка – у гэты дзень закрываецца выстаўка.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

■ ДА 25 САКАВІКА – ДНЯ АБВЯШЧЭННЯ БНР

# Дапамагла незалежнасць

У Белдзяржуніверсітэце была і ёсць вайсковая кафедра. Вядома, што і наведвалі яе хлопцы з розных рэспублік былога СССР. А пасля абвяшчэння незалежнасці, нядоўга думаючы, усе яны прынялі прысягу на вернасць беларускаму народу і сталі афіцэрамі Беларускай арміі. Новаспечаныя абаронцы Айчыны пасмяяліся з такога юрыдычнага казусу, як тады здавалася, і пакрочылі ў рэстаран "абмываць пагоны". А потым атрымалі дыпломы і раз'ехаліся кожны да сваёй хаты.

Хто паехаў у Расію, перастаў смяяцца, калі пачалася першая Чачэнская кампанія. Там, па меркаванні спецыялістаў, рабілася нешта жудаснае. Сепаратысты праводзілі сапраўднае паляванне на афіцэраў Расійскай арміі. Толькі колькасць забітых сярод гэтага кантынгенту сягала да 20% (Буніч "Трехсотлетняя война в России"). Ваенкаматы пачалі прызыў папаўнення на вакантныя месцы.

Прыйшла павестка і майму знаёмаму, што жыве ў Пскоўскай вобласці. Рабіць няма чаго, прыйшоў, куды клікалі. А там кажуць: "Як грамадзянін РФ, павінны аддаваць даўгі Радзіме". Ну, тут хлопец і дастае свае паперы. "А я, — кажа, — афіцэр іншай арміі, у мяне свой галоўнакамандуючы. І увогуле, мая армія нідзе не ваюе!".

Тут юрысты забегалі, але і хлопец быў не лыкам шыты. "Адкасіў"-такі ад "каўказскіх прыгод". Дарэчы, і не адзін ён, бо ў нас вучылася шмат расіян, якія прайшлі праз вайсковыя кафедры.

Навошта я ўсё гэта пішу? Ды проста цяпер можна пачуць размовы ў кшталту: што нам дала гэтая незалежнасць? Як бачыце, БЕЛАРУСКАЯ незалежнасць выратавала жыццё і здароўе дзесяткам РАСІЙСКІХ юнакоў. І гэта ўжо не толькі наш скарб! Праўду кажучы: маючы – не беражом, страціўшы – плачам.

**Алег БЯГАНСКІ.**



**Не так даўно ездзілі па Мядзельшчыне з выстаўкай майстрыхі з мінскага вучэбнага прадпрыемства «Беларусачка». Сярод іхніх вырабаў вылучылася шыкоўна зробленая «Пагоня». Скарыстаная ў рабоце арыгінальная тэхніка – выпальванне па тканіне. Між іншым, такі варыянт герба выдавалі на паштоўках часоў БНР.**

Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

# Там, дзе патрабуюцца рабочыя

**Маладзечанскі завод жалезабетонных вырабаў вылучаны як самастойнае прадпрыемства з 6 жніўня 1991 года. Да гэтага 10 год уваходзіў у склад будаўніча-мантажнага трэста №23. З 9 снежня 1996 года завод ператварыўся ў ААТ "Маладзечнажалезабетон". Кіравалі заводам Мікалай Івашкевіч (1981-2000) і Яўген Андрыенка (з 2000-га года па цяперашні час). Цяпер на заводзе працуе 147 чалавек, сярэдняя зарплата за студзень – 142687 рублёў.**

Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

**Фармоўшчык «Маладзечнажалезабетона» Уладзімір Сырай апрацоўвае пліты перакрыццяў.**

## Без будаўніцтва няма перспектыў

МАЛАДЗЕЧНА. У горадзе ёсць тры прадпрыемствы, жыццядзейнасць якіх залежыць ад колькасці ўзведзеных будынкаў. Гэта ААТ "Маладзечнажалезабетон", завод жалезабетонных вырабаў, завод жалезабетонных канструкцый.

Прадпрыемствы выпускаюць прыкладна адну і тую ж прадукцыю і канкуруюць паміж сабой. Па асноўных паказчыках эканамічнага развіцця "Маладзечнажалезабетон" лічыцца лепшым. Хаця галоўны інжынер **Анатоль Сулееў** не згодны:

– І мы працуем са стратамі, і іншыя прадпрыемствы таксама. За тое, што у нас страты меншыя, называць нас лепшымі язык не паварочваецца.

Начальнік аддзела маркетынгу **Васіль Старавойтаў** гаворыць, што калі ў горадзе не будуць узрастаць тэмпы жылёвага будаўніцтва, то перспектыў няма ніякіх. Ні ў гэтага завода, ні ў яго канкурэнтаў. Асобныя віды прадукцыі ідуць у Мінск, але значныя аб'ёмы туды не паставіш, бо, калі ўлічыць выдаткі на перавозку, кошт маладзечанскіх пліт будзе вышэйшы, чым у мінчан.

## Сезонная вытворчасць

Не скажаш, што прадпрыемства развіваецца дынамічна. Яно стаіць на месцы. За 2001 год аб'ёмы вытворчасці знізіліся, у параўнанні з леташнімі, на 3%. А за першы месяц гэтага года, у параўнанні са студзенем мінулага, павялічыліся на 0,5%. Адзінае выйсце – на рынак трэба выходзіць з іншымі відамі прадукцыі. На "Маладзечнажалезабетоне" выпускаюць некалькі відаў плітак і бардзюраў, сметніцы. Хаця аб'ёмы ў параўнанні з будаўніцтвам маленькія. Але гэта рабочыя месцы, і тавар папулярны. Цяпер на прадпрыемства дадаткова патрабуецца 8-9 рабочых. Часова, да кастрычніка, бо плітка – гэта сезонная прадукцыя. Хаця яе робяць і зімой.

Начальнік вытворчасці **Уладзімір Захаранка**:

– Робім запас на лета. Бо калі пойдуць заказы – не справімся. А кліенты плацяць грошы і адразу патрабуюць плітку. Во, гляньце (ідзем ля склада з гатовай прадукцыяй) – цёплае надвор'е стаіць толькі тыдзень, а ўжо столькі пліткі забралі!

## Эканомія, новыя рынкі

Начальнік фармовачнага арматурнага цэха і адначасова старшыня назіральнага савета **Міхаіл Трубач** расказвае пра тое, што змянілася на заводзе за апошнія 2 гады:

– Стараемся эканоміць на ўсім – трэба лічыць грошы. Адмовіліся ад арэнды паравоза для вытворчасці пару – дарагое дызпаліва. Зрабілі свой разгрузачны вузел, і цяпер пясок і брус возім не на машынах, а па чыгунцы, аснастку і формы на новыя вырабы стараемся рабіць уласнымі сіламі.

Галоўны інжынер Анатоль Сулееў расказвае пра новыя віды прадукцыі:

– Асвойваем выпуск полістыролбетону, пенапласту, блокі для ўцяплення "Цеплаэфект-2". Апошнія разыходзяцца і на расійскім рынку. Хаця мы арыентуемся на Беларусь. Бо транспартныя расходы займаюць вялікую долю ў сабекошце нашай асноўнай прадукцыі. Таму перавозіць іх на адлегласць, большую, чым 200 кіламетраў, немэтазгодна. Тое, што адзін час мы вазілі прадукцыю на Маскву, гэта нонсенс. Проста мы злавілі момант, калі ў Расіі "ляжала" прамысловасць. Пасля жніўня 1998 года тыя прадпрыемствы пачалі "падымацца" і выціснілі нашу прадукцыю.

Пенапласт выпрабляюць у Мінску. Але гэта не значыць, што мы не заваюем частку маладзечанскага рынку. Навошта за пенапластам ехаць у Мінск, калі яго можна знайсці тут?

**Юрый КАРПІЦКІ.**

### Дынаміка вырабу прадукцыі на ААТ «Маладзечнажалезабетон»

| | Зборны жалезабетон, м³ | Зборны бетон, м³ | Плітка, м² |
|---|---|---|---|
| 1999 год | 26657 | 3557 | 11316 |
| 2000 год | 16414 | 3740 | 10376 |
| 2001 год | 14704 | 4258 | 14067 |

## Курсы валют НБ РБ

| | 14 сакавіка | 21 сакавіка |
|---|---|---|
| Долар | 1679,00 руб. | **1695,00** руб. |
| ЕЎРА | 1469,71 руб. | **1490,16** руб. |
| Злоты | 403,36 руб. | **411,61** руб. |
| Літ | 425,70 руб. | **431,62** руб. |
| Расійскі рубель | 54,03 руб. | **54,44** руб. |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 1680 – 1700 руб. | **1730 – 1750** руб. |

## Маладзечна. Цэны ў сераду на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 13.03 | 20.03 |
|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі, 1 кг | 2600 | **2600** |
| Кілбаса с/вялен., 1 кг | 8900 | **9400** |
| Сасіскі, 1 кг | 3950 | **3950** |
| Селядзец, 1 кг | 2200 | **2300** |
| Рыс, 1 кг | 630 | **650** |
| Грэчка, 1 кг | 530 | **560** |
| Цукар, 1 кг | 730 | **730** |
| Алей, 1 л | 1500 | **1500** |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1000 | **900** |
| Маянэз, 200 г | 370 | **370** |
| Кава "Пеле", 100 г | 1800 | **1800** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 600 | **600** |
| Соус там. «Мінскі», 0,5 л | 650 | **650** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 800 | **400** |
| Капуста, 1 кг | 650 | **800** |
| Лімоны, 1 кг | 1900 | **1800** |
| Апельсіны, 1 кг | 1700 | **1650** |
| **Сялянскія прадукты** | | |
| Смятана, 1 л | 1400 | **1400** |
| Масла, 1 кг | 3400 | **3400** |
| Тварог, 1 кг | 1500 | **1200** |
| Малако, 1,5 л | 600 | **500** |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1200 | **1200** |
| Бульба, 1 вядро | 2800 | **2800** |
| Морква, 1 кг | 800 | **700** |
| Яблыкі, 1 кг | 500 | **550** |

## Лепшы прадпрымальнік – з Крывічоў

**МЯДЗЕЛ. У раёне вызначылі лепшага прадпрымальніка мінулага года.**

Ім стаў **Леанід Дзевялтоўскі** з Крывічоў. У пасёлку ён трымае магазін. Пры вызначэнні лепшага бралася пад увагу і дабрачынная дзейнасць. А Леанід Дзевялтоўскі пастаянна аказвае дапамогу дзіцячаму садку ў Крывічах.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Будуем у Заслаўі

**ВАЛОЖЫН. Больш за 40 рабочых ААТ "ПМК-188" двума аўтобусамі едуць кожную раніцу ў старажытнае Заслаўе.**

Там знаходзіцца галоўны аб'ект будаўнікоў – 80-кватэрны жылы дом. Раней валожынцы былі субпадрадчыкамі на будоўлі, але з-за таго, што членам жыллёвага кааператыву спадабалася якасць работ, ПМК-188 стала генеральным падрадчыкам. Заслаўскі заказ выручае валожынскае ПМК-188 – на тэрыторыі раёна амаль няма будаўнічых пляцовак.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

## Жанчыны працуюць лепш

**МЯДЗЕЛ. Пра гэта можа сведчыць наступны факт.**

Летась 67 працаўнікоў вытворчасці і сацыяльнай сферы раёна ўзнагародзілі за добрую працу Ганаровымі граматамі райвыканкома. З іх 54 – жанчыны.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Знізілся траўматызм

**МАЛАДЗЕЧНА. Летась у горадзе знізілася колькасць няшчасных выпадкаў на вытворчасці ў параўнанні з 2000 годам.**

Са смяротным зыходам летась быў 1 выпадак, з цяжкім – 7. Пазалетась і тых, і другіх было на 2 больш. На столькі ж скарацілася агульная колькасць выпадкаў вытворчага траўматызму – летась іх было 39.

Гарвыканкам прысудзіў прызавыя месцы ў аглядзе-конкурсе на лепшае прадпрыемства горада па ахове працы за 2001 год камбінату хлебапрадуктаў, Маладзечанскаму хлебазаводу і друкарні "Перамога". 19 сакавіка гэтыя прадпрыемствы атрымалі дыпломы.

Гарвыканкам адзначыў паляпшэнне работы па ахове працы ў арганізацыях "ПМК-212", "Аддзелачнік-198", "Будаўнік-197".

**Юрый КАРПІЦКІ.**

■ **МАЛЫ БІЗНЕС**

## Грыбы ў мясным магазіне

**ВАЛОЖЫН. У фірменным мясным магазіне "Пяршаі-3" з'явіліся грыбы вешанкі.**

Гэта фірменны магазін калгаса імя К. Маркса, які мае свой кілбасны цэх. Вырошчваннем грыбоў заняўся калгасны спецыяліст **Міраслаў Іваноўскі**. Ён арандаваў памяшканне склада ў калгасным свінакомплексе, падвёў туды газавае ацяпленне, наняў двух рабочых і стварыў ТДА "Грыб".

Першая партыя ў 40 кілаграмаў паступіла ў продаж. Грыбы вешанкі – экалагічна чысты прадукт, які выводзіць з арганізма чалавека радыенукліды.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

■ **ПРАЦОЎНАЕ ЗАКАНАДАЎСТВА**

# Водпуск сумяшчальнікам – аднычасова з водпускам па асноўнай рабоце

Згодна з ч. 1 арт. 347 Працоўнага кодэкса Рэспублікі Беларусь, працоўны водпуск тым, хто працуе па сумяшчальніцтве, прадастаўляецца аднычасова з працоўным водпускам па асноўнай рабоце.

Пры гэтым працягласць працоўнага водпуску тым, хто працуе па сумяшчальніцтве, складае колькасць каляндарных дзён, якая ўстаноўлена па гэтай рабоце. Рабочы год, за які прадастаўляецца працоўны адпачынак, як па асноўнай рабоце, так і рабоце па сумяшчальніцтве, вылічаецца раздзельна.

Працоўны водпуск на рабоце па сумяшчальніцтве прадастаўляецца пры ўмове, калі яны адпрацавалі ў наймальніка не менш за шэсць месяцаў. Аднак наймальнік абавязаны прадаставіць працоўны водпуск авансам да заканчэння шасці месяцаў, калі работніку прадастаўляецца працоўны адпачынак па асноўным месцы работы.

У выпадку, калі працягласць працоўнага адпачынку на рабоце па сумяшчальніцтве меншая, чым яго працягласць па асноўным месцы работы, то, па просьбе работніка, наймальнік прадастаўляе яму сацыяльны водпуск без захавання заработнай платы адпаведнай працягласці. Гэта вызначана тым, што працоўныя адпачынкі па асноўным месцы работы і па сумяшчальніцтве прадастаўляюцца разам.

Згодна з Тлумачэннямі пра адпачынкі тым, хто працуе па сумяшчальніцтве, якія зацверджаныя пастановай Міністэрства працы Рэспублікі Беларусь 26.10.1998 года №88, асобам, што працуюць па сумяшчальніцтве, па пісьмовай заяве са згоды наймальніка працоўны адпачынак можа быць заменены грашовай кампенсацыяй за выключэннем сямі дзён, а пры звальненні работніка выплачваецца кампенсацыя за нявыкарыстаны водпуск.

**Святлана АДАМОВІЧ, вядучы дзяржінспектар працы.**

■ **КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА**

## Чые мабільнікі?

**АСТРАВЕЦ. Менавіта з такім пытаннем памежнікі звярталіся да пасажыраў цягніка "Вільнюс-Масква", але дарэмна. Гаспадар так і не адгукнуўся.**

У выніку 34 мабільныя тэлефоны і 43 зарадныя прыстасаванні да іх, схаваныя ў канструкцыях вагонаў, былі перададзеныя ў Ашмянскую мытню.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

# Памідоры ў кватэры і на балконе

**Памідоры (таматы) – самаапыляльная культура, але вельмі цеплалюбівая і патрабавальная да ўмоў вырошчвання. Амаль усім яе патрабаванням адпавядаюць прыродныя ўмовы толькі паўднёвых краін. У паўночных жа шыротах аптымальныя ўмовы для росту і плоданашэння людзі навучыліся ствараць толькі штучна: у цяпліцах, парніках і інш. А што ж рабіць тым, у каго няма цяпліц? Яны навучыліся вырошчваць памідоры ў кватэрах і на балконах. Як гэта рабіць, чытайце ніжэй.**



Галоўнае, каб памідоры ўрадзіліся смачныя. А якога яны сорту – ці гэта важна. Фота з архіва «РГ».

## Што важна ведаць пра характарыстыку сартоў памідораў

На агародзе і ў вялікіх цяпліцах можна вырошчваць памідоры рознай вышыні, а ў кватэрах – пераважна нізкарослыя. Па высакаросласці і спосабах фармавання куста існуе вялікая разнастайнасць сартоў памідораў. Вучоныя аб'ядналі сарты ў групы і назвалі іх індэтэрмінантныя, дэтэрмінантныя і паўдэтэрмінантныя. Дэтэрмінант (лац. determinantis) – вызначальны, які развіваецца ў суладдзі з прыроднымі заканамернасцямі. Ін – прыстаўка, якая абазначае ў лацінскай мове адмаўленне.

З улікам гэтага да індэтэрмінантных адносяць сарты высакарослых памідораў, якія здольныя неабмежавана расці ў вышыню (3-5 метраў) і фармаваць самы разнастайны куст. Расліны дэтэрмінантных сартоў – нізкарослыя, мала галінуюцца, куст іх можна лёгка фармаваць у патрэбным напрамку. Сарты паўдэтэрмінантныя займаюць прамежкавае становішча, а максімальна дэтэрмінантныя маюць расліны, якія рэзка адрозніваюцца па вышыні і спосабе фармавання куста ад раслін сартоў дэтэрмінантных.

## Якія сарты вырошчваць?

**Для вырошчвання ў кватэры і на балконе найбольш падыходзяць дэтэрмінантныя сарты і гібрыды Раніца, Віліна, $F_1$ Благавест, $F_1$ Верліока. Яны самыя скараспелыя. Ад усходаў да выспявання пладоў у іх праходзіць 90-100 дзён.**

**Падыходзяць для кватэр і балконаў раннія сарты з вельмі дружным паспяваннем пладоў, невялікім і кампактным кустом (максімальна дэтэрмінантныя) – Неўскі, Грунтавы Грыбоўскі 1180, Белы наліў 241; сярэднеранніх – Калінка, Ружа, Вежа, Старт, Сюрпрыз, Превосходный, Шаганэ, а таксама і высакарослыя (індэтэрмінантныя) з падоўжаным плоданашэннем: Юрмалас, Украінскі цяплічны 285, Дэ-Бара, Бычынае сэрца, Цуда свету.**

## Як адсартаваць насенне?

**Зрабіце 5-% раствор харчовай солі – 50 грамаў на 1 літр вады або 1 чайную лыжку солі на шклянку вады. Насенне, якое не ўсплывае, выдаляюць. Астатняе прамываюць у чыстай вадзе, высыпаюць у марлевы мяшэчак і апускаюць у 1-% раствор марганцоўкі на 20-30 хвілін.**

## Спрыяльныя дні для пасадкі памідораў

**Для сяўбы на расаду – 22 і 23 сакавіка. Памідоры дадуць плады ў другой палове ліпеня і будуць плоданасіць да сярэдзіны верасня.**



## Падрыхтоўка да сяўбы

Адсартаваць па буйнасці насенне памідораў можна з дапамогай 5%-га раствору харчовай солі (50 грамаў на 1 літр вады). Тое насенне, якое не ўсплыве, прамываюць у чыстай вадзе, высыпаюць у марлевы мяшэчак і апускаюць у 1%-ны раствор марганцоўкі (2 грамы на шклянку вады) на 20-30 хвілін. Потым старанна прамываюць у чыстай вадзе і падсушваюць. Затым у марлевым мяшэчку апускаюць у ваду хатняй тэмпературы на 12-15 гадзін. Набрынялае насенне рассыпаюць на добра змочаную тканіну, накрываюць такой жа змочанай тканінай і прарошчваюць. Пры падсыханні падсцілкі яе злёгку змочваюць. На 4-5-ы дзень, калі з'явіцца маленькі парастак, насенне высяваюць. Так можна вызначыць і ўсходжасць.

## Сяўба насення і догляд за ўсходамі

Прарошчанае або непрарошчанае насенне высяваюць у глыбокую драўляную скрыначку або гаршчок, запоўнены глебавай сумессю з перагною і дзярновай зямлі (1:1) або зямлі з агарода і рачнога пяску (3:1), або набытай у магазіне. Глебавую сумесь уласнага прыгатавання ўгнойваюць аміячнай салетрай (5-10 г), суперфасфатам (40-50 г) і сульфатам калію (15-20 г) на 10 кг сумесі.

Насенне высяваюць радамі ў канаўкі глыбінёй 1,5-2 сантыметры. Адлегласць паміж канаўкамі – 5 см. Прысыпаюць насенне той жа глебавай сумессю і асцярожна паліваюць. Скрыначку накрываюць шклом або плёнкай і ставяць у цёплае месца. У прарошчанага насення праз 2-3, непрарошчанага – 4-5 дзён з'яўляюцца ўсходы. Укрыццё здымаюць, а скрынку пераносяць у светлае месца ў пакоі і на працягу 4-6 дзён за кошт набліжэння да акна або адкрыцця фортачкі паніжаюць тэмпературу да 12-15°С удзень і 8-10°С уначы.

Калі на сеянцах з'явіцца два сапраўдныя (а не семядольныя) лісты, сеянцы пікіруюць па аднаму ў ёмістасці. Галоўны корань прышчыкваюць на адну трэць, каб утварыліся моцныя бакавыя карані. Глебу бяруць таго ж складу, што і для сяўбы насення. Ёмістасці запаўняюць ёй не да краёў, пакідаючы 2-3 см для далейшай падсыпкі. Пры пікіроўцы сеянцы заглыбляюць да семядольных лістоў і абціскаюць зямлёй. Расліны асцярожна, але добра паліваюць і трымаюць у цяні пры тэмпературы 20°С.

## Догляд за расадай

Як толькі пікіраваныя сеянцы прыжывуцца, іх зноў ставяць у самае светлае месца. Днём падтрымліваюць тэмпературу 20°, а ноччу 10-12°. Праз 8-10 дзён пасля пікіроўкі расліны падкормліваюць мінеральнымі ўгнаеннямі з разліку на 1 літр вады 0,5-0,8 г аміячнай салетры, 2-2,5 сернакіслага калію і 2,5-3 г суперфасфату. Шклянку раствору расходуюць на 4 расліны. Праз тыдзень падкормку паўтараюць, але расходуюць шклянку раствору на 2 расліны. Пасля паліву глебу рыхляць, а пасля падкормкі яшчэ і падсыпаюць глебу. Гэта палепшае фармаванне і рост новых каранёў.

Расаду ў гаршчочках, ёмістасцях не пікіруюць. Паліваюць і падкормліваюць яе па меры неабходнасці.

## Сеем памідоры на расаду?

Каб атрымаць спелыя плады памідораў у маі, насенне іх высяваюць у студзені-пачатку лютага.

У бягучым годзе па месяцавым календары спрыяльныя для сяўбы памідораў на расаду 22 і 23 сакавіка. Яны дадуць плады ў другой палове ліпеня і будуць плоданасіць да сярэдзіны верасня.

Для асенне-зімовай культуры памідораў у кватэры насенне можна высяваць 12, 13, 20 і 21 чэрвеня, а ўраджай здымаць з трэцяй дэкады верасня да канца лістапада.

Калі ж вы пасееце насенне памідораў на расаду 22 або 23 сакавіка і высадзіце яе ў адкрыты грунт пад плёнку 16, 17, 22-25 мая, арганізуеце неабходны догляд за пасевамі, дык яны будуць плоданасіць з канца ліпеня да 5-10 верасня.

## Пасынкаванне памідораў. Фармаванне куста

З кожнай пупышкі ў пазусе ліста на галоўным сцябле памідора вырастае бакавы парастак-пасынак. Выдаленне гэтых парасткаў называецца пасынкаваннем. Пасынкі выдаляюць, калі яны дасягнуць даўжыні 5-7 см. Калі гэтага не зрабіць, з пасынка разаўецца парастак з кветкавай гронкай на канцы. Чым больш такіх гронак, тым марудней растуць і паспяваюць плады, якія завязаліся. Пасынкі зразаюць вострым нажом або нажніцамі, пакідаючы пянёк даўжынёй 1 см. Праз два тыдні пасынкаванне паўтараюць, а калі неабходна, робяць і трэцяе.

Кусты памідораў на падваконні і балконе фармуюць у адно сцябло, радзей – у два, а пад плёнкай і ў адкрытым грунце нават і ў тры.

Калі фармуюць у 1 сцябло, то на ім выразаюць усе бакавыя парасткі, якія ўтвараюцца ў пазухах кожнага ліста. Калі ў 2 сцяблы – пакідаюць адзін парастак, які расце пад першай (самай верхняй) кветкавай гронкай, а астатнія выдаляюць. Пры трохсцябловай форме пакідаюць яшчэ і трэці парастак пад другім (гл. рыс.).

Раннеспелыя (дэтэрмінантныя) сарты (Талаліхін, Даходны, Белы наліў і інш.) звычайна пасынкуюць адзін раз, пакідаючы два верхнія парасткі. У спрыяльныя для памідораў гады гэтыя сарты можна і не пасынкаваць. Сярэднеранныя і познія сарты пасынкуюць абавязкова.

У высакарослых (індэтэрмінантных) сартоў Юрмалас, Дэ-Бара, Бычынае сэрца, Цуда свету і іншых новыя парасткі ўтвараюцца бесперапынна. Расліны такіх сартоў не толькі пасынкуюць, але і прышчыкваюць верхавінку над 2, 3 і 4-й гронкамі




Схема фармавання куста пры першым пасынкаванні таматаў.

## Высадка расады на пастаяннае месца. Догляд за раслінамі

Праз 45-55 дзён пасля з'яўлення ўсходаў, калі ў раслін сфармуецца 6-8 сапраўдных лістоў і зачаткі бутонаў першай (самай верхняй) кветкавай гронкі, расаду памідораў перасаджваюць на пастаяннае месца ў драўляныя скрынкі, керамічныя гаршчкі, запоўненыя глебавай сумессю. На дно скрынкі (гаршчка) кладуць дробны жвір або бітую цэглу слоем 2-3 см, зверху насыпаюць глебавую сумесь слоем 6-8 см. Папярэдне палітую расаду з комам зямлі выбіраюць з расадніка, перасаджваюць у цэнтр скрынкі (гаршчка) і засыпаюць да семядольных лісцяў. Гаршчок або скрынку запаўняюць зямлёй не да верху, каб пры з'яўленні на паверхні глебы новых каранёў можна было іх засыпаць. Некаторыя агароднікі-аматары робяць скрынкі даўжынёй 70 см і высаджваюць у такія скрынкі па 3 расліны. Побач з кожнай раслінай умацоўваюць калочак вышынёй 70-80 см і падвязваюць да яго расліну. Калі ж расліны высакарослыя, іх падвязваюць да шпагату, прымацаванага да верхняй рамы.

Як толькі расліны прыжывуцца, іх падкормліваюць. Пры першай падкормцы бяруць на 1 л вады 1,5 г аміячнай салетры, 5 г суперфасфату і 1 г сернакіслага калію. У перыяд ад з'яўлення першых кветак да ўтварэння пладоў дозу аміячнай салетры павялічваюць да 4 г, сернакіслага калію (сульфату калію) да 3 г, а суперфасфату змяншаюць да 4 г на 1 л вады. На адну расліну расходуюць 0,5 л раствору. За дзень да падкормкі расліны добра паліваюць і глебу рыхляць. Летам расліны выстаўляюць на балкон, пры рэзкім пахаладанні заносяць у кватэру.

Памідорам, якія вырошчваюць на падваконні або на балконе, часта шкодзіць тля і шчытоўка. Найбольш эфектыўным супраць тлі з'яўляецца настой часнаку (40 г здробненага часнаку настойваюць 6 гадзін у 1 л вады). Настоем прамываюць лісце, асабліва знізу. Пры з'яўленні шчытоўкі расліны прамываюць вадой з мылам.

**Старонку падрыхтаваў Альбін МАКАРЭВІЧ.**

■ МІЖСЕЗОННЕ

# Сапернікі вырашалі розныя задачы

**16.03. ФК “Маладзечна-2000” – Смаргонь 5:1 (2:1)**

Галы: 1:0 – Карпіленка, 2:0 – Карпіленка, 2:1 – Дзігілевіч, 3:1 – Рапецкі, 4:1 – Міхалёў, 5:1 – Мігас.

**Смаргонь**

**Кліменка**
**Байда** **Сілін** **Курак**
**Давідовіч**
**Крывальцэвіч**
**Дукса** **Ваўчок**
**Дзігілевіч**
**Шаўчук** **Стэльмах**

**Рапецкі** **Сідарэнка**
**Міхалёў**
**Тартоўскі** **Мігас**
**Карпіленка**
**Кабельскі**
**Азаронак** **Бычкоўскі (Бадроў)**
**Сарасек (Мураўейнікаў)**
**Асадоўскі**

**Маладзечна-2000**

Матч паказаў, што сапернікі знаходзяцца на розным узроўні гатоўнасці да сезона. ФК “Маладзечна” пераўзыходзіла сапернікаў у згулянасці і значна – у фізічнай падрыхтоўцы. Але нельга не ўлічыць, што напярэдадні смаргонцы згулялі матч у Мінску супраць “Зоркі-ВА-БДУ”. Маладзечанцы выставілі аптымальны склад, акрамя варатарскай пазіцыі, а ў смаргонскай камандзе застаўся дома цэлы лазарэт з гульцоў, якія атрымалі траўмы і захварэлі на грып.

Сезон у вышэйшай лізе пачынаецца на два тыдні раней, чым у першай, таму на пярэдні план у маладзечанцаў выходзіць адпрацоўка камандных дзеянняў, а смаргонцы працуюць над фізічнай падрыхтоўкай.

Сярэдняя лінія маладзечанцаў нагрузіла абаронцаў малодшай па ранзе каманды па поўнай праграме. Атакі гаспадароў накатваліся адна на другую увесь матч. Калі першыя 20 хвілін смаргонцы яшчэ агрызаліся, то пасля сярэдняя лінія і нападзенне «сталі». З таго, што стварылі смаргонцы за матч, успамінаецца недакладны ўдар **Дуксы** пасля флангавага праходу. Астатнія моманты – на сумленні варатара маладзечанцаў **Асадоўскага**. Калі да канца першага тайма заставалася некалькі хвілін, Асадоўскі, якому ніхто не перашкаджаў, вырашыў даць пас леваму абаронцу **Азаронку**. Але зрабіў гэта настолькі нязграбна, што мяч перахапіў **Дзігілевіч** і забіў яго ў пустыя вароты. А ў канцы матча Асадоўскі адпасаваў проста нападаючаму гасцей. Але той крыху разгубіўся і не здолеў другі раз пакараць маладзечанцаў – мяч трапіў у штангу.

Першы гол маладзечанцы забілі ў сярэдзіне першага тайма – **Карпіленка** стрэліў метраў з дваццаці пяці. Мяч куляй уляцеў у левы ніжні ад варатара кут. Праз дзесяць хвілін **Кліменка** згуляў рукамі за межамі штрафной, калі перашкаджаў Сідарэнку рэалізаваць выхад сам-насам. Пасля ўдару Карпіленкі са штрафнога мяч адскочыў ад штангі і ўляцеў у вароты. Потым быў гол Дзігілевіча.

У пачатку другога тайма добра згуляў **Рапецкі**, які выкарыстаў свой шанц, у адрозненне ад Сідарэнкі, які запомніўся хранічнай нерэалізацыяй момантаў. Нападаючы адабраў мяч у штрафной у некалькіх сапернікаў і праштурхнуў яго пад варатарам. Але самы прыгожы быў чацверты гол маладзечанцаў: **Кабельскі** згуляў у сценку з партнёрам, прайшоў па правым флангзе да вуглавога флажка, навесіў, і **Міхалёў** з лёту расстраляў вароты. Апошні гол гаспадары забілі са штрафнога – **Мігас** закруціў мяч у правы ад варатара вугал.

Галоўны трэнер “Смаргоні” **Андрэй Майсейчанка**:

– Да гэтай гульні ў нас амаль не было спарынгаў на зямлі, таму наша цяперашняя задача – палепшыць фізічны стан гульцоў праз гульнявыя практыкаванні. На выніковы лік мы не глядзім. З 31 сакавіка па 4 красавіка пройдзе турнір у Гродне, там будзем нагульваць “аснову”.

Мы ўчора гулялі супраць “Зоркі-ВА-БДУ”. Выйгралі 1:0. Траўміраваныя **Чарнуха** (у яго праблемы з каленам), **Шэлест, Іваноў, Шляхавой**. Захварэў **Максіменка, Шаблінскі, Кошаль**. У нас ёсць па 2 роўныя кандыдаты амаль на кожную пазіцыю. Але не замінула б запрасіць гульцоў сярэдзіны поля і крайніх абаронцаў.

**Юрый КАРПІЦКІ.**



Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

**“Маладзечна-2000” – “Смаргонь”. З мячом Віталь Міхалёў.**

■ «РГ» – СТАТЫСТЫКА

| | Маладзечна-2000 | | | Смаргонь | | |
| --- | --- | --- | --- | --- | --- | --- |
| | 1 тайм | 2 тайм | Усяго | 1 тайм | 2 тайм | Усяго |
| Удары па варотах | 11 | 8 | 19 | 4 | 6 | 10 |
| З іх – у створ варот | 3 | 4 | 7 | 2 | 1 | 3 |
| Вуглавыя | 7 | 3 | 10 | 2 | 1 | 3 |
| Фалы | 3 | 9 | 12 | 2 | 6 | 8 |
| Афсайды | 3 | 4 | 7 | 1 | 0 | 1 |

**Падрыхтавалі Дзмітрый БАБРОВІЧ і Вячаслаў ЦЭЛІКАЎ.**

# Віталь Міхалёў: трэба выступіць лепш

**– Успомніце нейкія падрабязнасці мінулага сезона.**

– Перадсезонку правялі ў Маладзечне без нейкіх выязных збораў. Магчыма, умовы падрыхтоўкі адбіліся на нашых матчах, але лічу, што можна трэніравацца як след і тут. Цяжка ўваходзілі ў сезон, але ў хуткім часе гульня каманды стабілізавалася. Маладыя хлопцы даволі хутка прызвычаіліся да вышэйшай лігі, перасталі баяцца сапернікаў, ды і каго там баяцца – такія ж людзі. У псіхалагічным плане вельмі неабходная была першая перамога, якую атрымалі ў чацвертым туры дома з гамяльчанамі. Напачатку лета даволі высока падняліся ў табліцы, магчыма, недзе і самазаспакоіліся. Нас лёгка пакаралі за гэта, некуды прапала ўпэўненасць у сваіх сілах. А наогул, тлумачэнне доўгай бязвыйгрышнай серыі знайсці немагчыма. Кожны павінен шукаць яго ў сабе. Быў за гэты час добры матч з “Белшынай”. Не скажу пра астатніх хлопцаў, што гулялі раней за бабруйчан, а для мяне той матч быў звычайны. Праўда, **Румбуціс** настройваў нас толькі на перамогу, дамагліся пачэснай нічыёй. У другім крузе ўзялі, што называецца, свае ачкі, замацаваліся ў вышэйшай лізе. Думаю, сёлета будзем гуляць лепш, дастойна супрацьстаяць лідэрам. Леташняя канцоўка паказала, што можам абыграць той жа БАТЭ.

**– Як ацэніце сваю гульню?**

– Спадзяюся, лепшы сезон у мяне наперадзе. Па пяцібальнай сістэме ацаніў бы свае дзеянні на слабую чацвёрку ці нават на тры з плюсам. Хацелася б лепш дзейнічаць наперадзе, мець больш упэўненасці ў атацы.

**– Вашы капітанскія абавязкі Гэта толькі права пагутарыць з суддзёй на полі ці яшчэ нешта?**

– З суддзямі гутарыць няма чаго, трэба гуляць у футбол. Гэта быў мой першы сезон у вышэйшай лізе ў якасці капітана. Быць капітанам – значыць быць лідэрам, весці хлопцаў за сабою. Трэба падтрымліваць дыялог з трэнерамі, спонсарамі. Ці буду капітанам сёлета, будзе ясна пасля звычайнай працэдуры выбараў, якая адбываецца перад пачаткам чэмпіянату.

**– Ці згодныя з тройкай лепшых па версіі “РГ”: Міхалёў, Азаронак, Рубацкі? Каго яшчэ з партнёраў вызначылі б?**

– Усе гулялі роўна, стараліся, імкнуліся... Рубацкі вельмі дапамог у многіх матчах, “цягнуў” цяжкія мячы. Азаронак – адзін з лідэраў каманды, добра бачыць поле, універсал, гуляў на самых розных пазіцыях. Сёлета нам будзе не хапаць забіўнога форварда **Турчыновіча**. Калі пойдзе **Кабельскі**, гэта таксама будзе сур’ёзная страта.

**– Як фінансавыя справы? Ці атрымалі гульцы належныя грошы?**

– За мінулы год па прэміяльных спонсары з намі разлічыліся. Горад жа затрымаў заработную плату. Там пакуль толькі на словах жадаюць дапамагаць.

**– Вы ўжо сказалі, што ў гэтым сезоне трэба чакаць лепшых вынікаў.**

– Так. Праўда, канкрэтную задачу нам ніхто яшчэ не ставіў. Ва ўсялякім выпадку, будзем змагацца ў кожным матчы. Абавязкова пастараемся перамагаць дома перад сваімі балельшчыкамі. Магчыма, нам пакуль рана змагацца за высокія месцы ў табліцы, але трэба выступіць лепш, чым летась.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

## Па версіі «РГ», Віталь Міхалёў – лепшы ў складзе ФК «Маладзечна-2000»

У кожным леташнім матчы “Маладзечна-2000” журналісты “Рэгіянальнай газеты” вызначалі шэраг лепшых гульцоў каманды. Пры падвядзенні агульнага заліку атрымалася, што ў 26 сустрэчах чэмпіянату і адной кубкавай 8 разоў мы адзначалі капітана каманды, атакуючага паўабаронцу, 27-гадовага **Віталя Міхалёва**. Другое-трэцяе месца ў нашым заліку з 7 баламі падзялілі **Аляксей Рубацкі** (варатар, 23 гады) і **Руслан Азаронак** (універсал, 26 гадоў). 6 балаў меў **Дзмітрый Мігас** (паўабаронца, 21 год). Астатнія футбалісты, у тым ліку лепшы бамбардзір – 27-гадовы **Андрэй Турчыновіч** – набралі 4 балы і менш.

Міхалёў адсутнічаў з-за траўмы толькі ў Магілёве, заўсёды выходзіў на поле ў асноўным складзе з капітанскай павязкай на руцэ, 13 разоў яго замянялі. Ён правёў у Маладзечне сезон-98, згуляў тады 29 матчаў, забіў 1 гол (таксама адзіны ў сустрэчы). У 2000-м годзе ў першай лізе правёў за маладзечанцаў 27 матчаў, забіў 10 галоў.

## Табло

■ КАНТРОЛЬНЫЯ МАТЧЫ

**15.03 Зорка-ВА-БДУ (Мінск, Д1) – Смаргонь 0:1 (0:0)**

Гол: Шэўчык (75)

**16.03 Маладзечна-2000 (дубль) – Смаргонь (другі склад) 7:2 (5:1)**

Галы: Грыхуцік (5, 12, 39, 67), Макрыцкі (27, 55), Лявончык (33); Кошаль (19), Шэўчык (60)

■ МАЛАДЗЕЧНА-2000

Каманда адправілася на збор у Брэст да 30-га сакавіка пашыраным складам у 25 чалавек: Азаронак, Альховік, Антановіч, Асадоўскі, Асіповіч, Бычкоўскі, Дараховіч, Дрозд, Кабельскі, Карпіленка, Лявончык, Макрыцкі, Мігас, Міхалёў, Млечка, Мураўейнікаў, Пятроўскі, Рапецкі, Рубацкі, Сарасек, Сідарэнка, Смірноў, Сцепановіч, Сысой, Тартоўскі.

Адзначым прысутнасць у гэтым спісе **Кабельскага**, чый пераход у “Тарпеда-МАЗ” можа не адбыцца, і **Асіповіча**, які нарадзіўся ў зусім недалёкім яшчэ 86-м.

■ ДУБЛЬ

У матчы са смаргонцамі выходзілі трое выхаванцаў маладзечнаскай ДЮСШ, што не выступалі за каманду летась: варатар **Аляксандр Вайда** (1984 года нараджэння), абаронцы **Максім Невядомскі** (1983) і **Ігар Сопат** (1984).

■ СМАРГОНЬ

Пасля перамогі над сталічным прадстаўніком вышэйшай лігі ў пятніцу на наступны дзень ужо не было сілаў супрацьстаяць маладзечанцам. Ды і былі цяжкасці са складам, бо ў Мінску траўміраваліся **Іваноў** і **Шляхавой**, а яшчэ некалькі футбалістаў хварэюць.

Маркуецца гульня ў нядзелю ў Мінску з “Лакаматывам” (Д2).

■ МІНІ-ФУТБОЛ

Маладзечанскія завадчане, якія на роднай пляцоўцы прымалі фінальны турнір, саступілі нясвіжцам абласное чэмпіёнства па міні-футболе. Асабістая сустрэча з крыўдзіцелямі прайшла ў роўнай барацьбе, на жаль, саперніку ўдалося рэалізаваць галявыя моманты. Толькі два матчы правялі аматары са Смалявічаў, а потым не прыязджалі, за што атрымлівалі тэхнічныя паражэнні ў 0:10.

| Каманды | Вынікі | Ачкі |
| --- | --- | --- |
| 1. Нясвіжскі раён | 1:2 | 15 |
| 2. ЗМК (Маладзечна) | ## | 12 |
| 3. Слуцкцукар (Слуцк) | 6:2 | 9 |
| 4. Дзяржынскі раён | 7:2 | 6 |
| 5. Зорка (Мар’іна Горка) | 3:2 | 3 |
| 6. Пліса (Смалявічы) | 10:0 | 0 |

Склад нашых землякоў быў звычайны для апошніх двух месяцаў. Галы на турніры забівалі **Сяргей Півавар** – 9; **Віталь Казяк** і **Міхаіл Раць** – па 2; **Віталь Абановіч**, **Аляксандр Грыхуцік**, **Сяргей Дакурна**, **Віталь Чарняўскі** – па 1.

Надзеі **Канстанціна Харламава** стварыць каманду для чэмпіянату краіны не спраўдзіліся. Спонсары, на якіх ён спадзяваўся, адмовіліся ад гэтага праекту.

■ ФУТБОЛ

З 29-га па 31-га сакавіка ў Маладзечне пройдзе судзейскі абласны збор. Натуральна, прымуць удзел усе мясцовыя арбітры. Нагадаем іх: **Віктар Дзмітрачкоў**, **Уладзімір Асіпенка**, **Ігар Крук**, **Сяргей Ляшчынскі**, **Сяргей Карыцька**, **Віктар Бажко**, **Яўген Цярэшчанка**. З гэтага сезона да іх дадаўся **Віталь Казяк**. Да таго ж, адзін з лепшых у 90-ыя гады маладзечанскіх футбалістаў заняўся трэнерскай справай у ДЮСШ.

■ ЛЕГІЯНЕРЫ

Стартаваў чэмпіянат расійскай прэм’ер-лігі – так цяпер называецца мацнейшы дывізіён у суседзяў. У асноўны склад растоўскага “Растсельмаша” на звычайнай для сябе пазіцыі правага паўабаронцы трывала ўвайшоў **Уладзімір Карыцька**. Дэбютаваў ён у першым туры на выездзе супраць маскоўскага “Спартака” (лік сустрэчы 0:0).

Адзначым, што ў Растове-на-Доне самая буйная беларуская дыяспара: галоўны трэнер **Анатоль Байдачны**, лепшы футбаліст краіны-2001 **Генадзь Тумілові**ч, а таксама **Аляксандр Чайка** і **Дзмітрый Чалей**. Апошні некалі гуляў за маладзечанскі клуб.

**Уладзімір** і **Міхаіл Макоўскія** распачалі другі круг чэмпіянату Украіны са сваім “Закарпаццем”, якому трэба дапамагаць не вылецець з вышэйшай лігі.

**Андрэй Мілеўскі** застаўся ў салігорскім “Шахцёры”, а працяг кар’еры **Аляксандра Вяжэвіча** пакуль не вызначаны – цяпер ён трэніруецца з “Тарпеда-МАЗам”.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ЛЁГКАЯ АТЛЕТЫКА

МЯДЗЕЛ. **Андрэй Паспелаў** з райцэнтра заняў першае месца ва ўзроставай групе 35–39 год на лёгкаатлетычным прабегу ў Жодзіне на дыстанцыі 20 км.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

■ ПАРАЛІМПІЯДА

Не заваявалі медалёў маладзечанцы ў Солт-Лейк-Сіці. Бліжэй за астатніх да п’едэстала быў **Васіль Шапцібой**: на “дзесятцы” ён заняў 4 месца. Потым на дыстанцыі, у два разы даўжэйшай, быў сёмы. **Віктар Жукоўскі** займаў адпаведна 6 і 14 радкі ў пратаколе.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

